# КРЫВІНКА

САКАВІК
№ 4 (105)
2012 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА


"Нельга есці хлеб народа і грэбаваць ягонай мовай".
Ул. Караткевіч.



МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## РАСЕЯ І ВЫБАРЫ

Ну вось і ўсё. Расея таксама мае прэзідэнта, які пасля васьмі гадоў прэзідэнцкага кіравання і чатырох прэм'ерства атрымаў мандат на чарговыя шэсць гадоў. Усяго Пуцін спадзяваецца быць пры ўладзе ўжо васямнаццаць гадоў. Некаму падасца, што сцэнар развіцця падзей у Расеі амаль што паўтарае беларускі. Але… але… але…

Пачнем з галоўнага "але". Пасля выбараў усе апазіцыйныя кандыдаты ў Расеі засталіся на свабодзе. Іх не кінулі ў турму і не аб'явілі ворагамі народа. Пра іх даволі лаяльна выказваліся тэлевядоўцы, яны усе ўдзельнічалі ў паслявыбарчым падвядзенні вынікаў выбараў. Так, у Расеі ёсць нязгодныя з выбарамі і іх даволі шмат. Пуцін набраў больш за 60% галасоў тых, хто з'явіўся на выбары. Але гэта значна менш паловы ад колькасці ўсіх расеян, то бок грамадзян, што мелі права голасу. І Пуцін тое разумее. Ён разумее, што пры адсутнасці рэформ у палітычнай сферы, ягонае кіраванне можаператварыцца ў чарговае згніванне Расеі. І, мне падаецца, ён гэтага не хоча.

А таму рэформы ў Расеі не за гарамі. Пра тое сведчаць сустрэчы Пуціна з "нефармальнай" апазіцыяй, то бок з лідарамі тых арганізацый, што не прадстаўлены ў Дзяржаўнай думе. Пра тое сведчаць абяцанні пра прыняцце законаў аб выбарнасці губернатараў і аб зніжэнні рэгістрацыйнага парога для партый – з некалькіх дзесяткаў тысяч да 500 грамадзян.

Чарговае "але" датычыцца легітымнасці выбараў. Так, у Расеі таксама ёсць парушэнні на выбарчых участках. Але іх нельга параўноўваць з парушэннямі ў нашай краіне па маштабу. У Расеі няма, так бы мовіць, арганізаванай фальсіфікацыі выбараў. У нашай вялізнай суседкі, што працягнулася праз дзесяць гадзінных паясоў, няма датэрміновага галасавання, роўнага па маштабу беларускаму. На яго не заганяюць людзей пад прынукай. І прагаласаваўшых датэрмінова там не больш 1 -2 %. (Як гэта мусіць быць ва ўсіх цывілізаваных краінах.) На датэрміновыя выбары ў Расеі не гоняць студэнтаў і салдат, не прымушаюць іх галасаваць адзіна правільна, а калі нейкі факт такога ціску мае месца, то пра яго адразу становіцца вядома грамадскасці, і сам Пуцін абяцаў разабрацца з такімі мядзведжымі для яго паслугамі.

Расея ўздымае пытанне аб адмене выбараў на даму. Пагадзіцеся, калі чалавек не ў стане дайсці сам да выбарчага ўчастка (ён можа праз дзень-другі нават памерці), пра які ўдзел у выбары курсу краіны на бліжэйшы час можа ісці размова. Час гэтага чалавека мінуў, і ягоны голас не павінен стаць прадметам маніпуляцый. А для членаў выбарчых камісій у Беларусі, якія чамусьці прадстаўляюць толькі інтарэсы аднаго чалавека, тое галасаванне на даму становіцца кландайкам галасоў за любімага кандыдата.

Яшчэ адно "але" – празрыстыя урны і вэб-камеры на ўчастках. Гэта пачатак дэмакратыі ў краіне і канец любой дыктатуры. Пуцін гэта разумее. Мне здаецца, што ён дэманстратыўна паказвае Аляксандру Рыгоравічу, у чым розніца паміж іхнімі прэзідэнцкімі тэрмінамі. Няхай бы Пуцін яшчэ зразумеў, што падтрымка такога прэзідэнта, які на кожным кроку шальмуе Расею, ганьба для яго самога. Прэзідэнт, які грэбуе мовай свайго народа, адкрыта здзекуецца з яе – плюе ў твар усім беларусам. На жаль, мы толькі ўціраем свае твары. Ужо доўгія васямнаццаць гадоў. А Расея толькі працягвае ручнік…

Г.Станкевіч.

## МАТЧЫНА ХУСТКА

*Пахне яна клапатлівай спякотай,*
*песняй пчалы,*
*сырадоем духмяным,*
*спрэчкай спрадвечнаю*
*бульбы з асотам*
*і мурагом,*
*што ў сяннік напіханы.*

*Пахне яна*
*залатой павуцінкай,*
*хрумсткай антонаўкай,*
*роснаю пожняй,*
*ржэўнікам шэрым,*
*счарнелым націннем,*
*голасам выраю*
*ў небе трывожным.*

*Пахне яна*
*маладзенькім марозам,*
*дранікам,*
*што на патэльні пячэцца.*
*Пахне яна*
*нечым родным і розным,*
*як прытулюся –*
*аж зойдзецца сэрца.*

*Мы вырастаем марудна і хутка…*
*Пахне маленствам маміна хустка.*

С.Законнікаў.

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## ДЫК ЧЫЯ СПРАВА – РАТАВАННЕ ТАПЕЛЬЦАЎ?

У адпаведнасці з Дырэктывай Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Аб мерах па ўмацаванню грамадскай бяспекі і дысцыпліны" і ўказам Прэзідэнта ад 29.06.2004 № 298 падвышаецца роля, патрабаванні і адказнасць арганізацыі ОСВОД (беларуская абрэвіятура АРВАД) – арганізацыі па ратаванню на вадзе. Там падкрэсліваецца, што задачы, якія выконвае АРВАД, з'яўляюцца задачамі дзяржаўнай значнасці.

Лагічным працягам гэтай дырэктывы і ўказа з'явіўся ліст, які ў сакавіку атрымалі ўстановы адукацыі раёна. У ім чорным па беламу стаіць, што "з мэтай забяспячэння бяспекі … рэкамендуецца кіраўнікам усіх суб'ектаў гаспадарання незалежна ад формаў уласнасці ўступіць у калектыўныя члены АРВАД і аказаць фінансавую падтрымку ў выглядзе грашовых узносаў".

Гэтыя сродкі АРВАД будзе расходваць на "дзяржаўна-значныя мэтавыя праграмы развіцця АРВАД, правядзенне прафілактычных мерапрыемстваў на папярэджанне няшчасных выпадкаў сярод насельніцтва, выданне нагляднай агітацыі, плакатаў, метадычных дапаможнікаў і брашур, набыццё плавальных сродкаў, вадалазнага рыштунку і медыкаментаў".

Як дадатак да паперы быў прымацаваны ліст з табліцай: "імя, прозвішча", "дабраахвотны ўносак", "подпіс". На дадатку стаіць ветлівы зварот: "Дарагія сябры! Ваша дапамога будзе ацэнена як выкананне грамадзянскага доўгу ў справе ратавання чалавечых жыццяў".

Я не знайшоў бы нічога абуральнага ў тым, што мы павінны за свае сродкі ратаваць саміх сябе, каб не некаторыя моманты нашага жыцця.

Па-першае, у Дырэктыве і ўказе Прэзідэнта падкрэслена, што задачы АРВАД – дзяржаўнай значнасці. Такія ж па значнасці абавязкі дзяржавы, на думку сучаснай улады, утрымліваць армію, унутраныя войскі і г.д. Але ў нас не просяць, каб мы "скінуліся" на танк ці самалёт, у сувязі з пагрозамі краінаў НАТА. Усе расходы на дзяржаўна значныя праекты закладваюцца ў бюджэт краіны, які прымаецца дэпутатамі на найвышэйшым узроўні. Калі роля АРВАД такая вялікая, то трэба было б выдзеліць гэтай арганізацыі хоць нейкія сродкі для існавання. Мы ўмацоўваем армію, якая, у прынцыпе, не выконвае ў нашай краіне аніякай значнай ролі. Яна нікога не бароніць і не зможа абараніць, калі ў гэтым будзе патрэба. Яна ўсё больш і больш становіцца інструментам палітыкі ў руках аўтарытарнай улады. І нямалыя сродкі, якія ідуць на генеральскія зарплаты і пенсіі, маглі б цалкам прыгадзіцца для АРВАД.

Я не буду спрачацца з тымі, хто мне запярэчыць, што армія патрэбна ў той колькасці, якую мы маем. Няхай кожны застаецца пры сваёй думцы. Але ж у Беларусі ёсць столькі алігархаў – сяброў кіраўніка краіны. Гэта і Юрый Чыж, уладальнік "Трайпла", гэта і цыгарэтны магнат Павел Хапузідзес, чые супермаркеты "Карона" штодзень нясуць залатыя яйкі. Няхай бы яны і "адшпілілі" пару дзесяткаў мільёнаў на ратванне тапельцаў. Калі ж ім гэтых "кроўна заработаных чэсным трудом" грошай шкада, ёсць у нас яшчэ імперыя, якая стваралася для развіцця спорту – латарэйны бізнес. І там кіруюць прыбліжаныя кіраўніка краіны. Няхай спадары падзеляцца суперпрыбыткамі. Кватэры ў Менску і легкавікі выдзяляюцца латарэйшчыкамі не за свае і не за апошнія грашы.

І апошняе. Сам прэзідэнт мае свой рэзервовы прэзідэнцкі фонд, памер якога вырас з 58-і ў 2011-м да рэкордных 237-і мільёнаў даляраў у гэтым годзе. Заўважце, што гэты фонд не надта пацярпеў ад мінулагодняй інфляцыі. Чаму б кіраўніку не рызыкнуць і не ўкласці ў справу ратавання тапельцаў, набыцця плавальных сродкаў і вадалазнага рыштунку сваю долю. Ну не ўсё ж яму піярыцца за гэтыя грошы, якія таксама не з неба зваліліся, а з нейкіх канкрэтных дзеянняў з канкрэтнымі матэрыяламі, што належылі не аднаму чалавеку, а ўсёй краіне.

Мне асабіста так і не зразумела: чаму ж імклівa "разбагацеўшы" ў 2011 годзе шараговы беларус мусіць ратаваць сваё жыццё на кожным кроку сам? Дзеля чаго ж тады існуе дзяржава?

Г.Станкевіч.

## "КРЫВІНКА" Ў ІНТЭРНЭЦЕ

У сувязі з праблемай размяшчэння газеты "Крывінка" на партале http://haradok.belarda.org/ наша газета стала будзе размяшчацца на партале **http://kamunikat.org/** , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: **http://kamunikat.org/kryvinka.html** , што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання.

НАША ЖЫЦЦЁ

## З 1-ГА КРАСАВІКА – НОВАЯ БАЗАВАЯ

Пяць гадоў базавая велічыня нязменна трымалася ў памеры 35 000 рублёў. Згодна з пастановай Савета Міністраў, ад першага красавіка яна складзе ўжо 100 000. Што зменіцца? Зменіцца многае – і памер дзяржаўнай дапамогі, і штрафы, і памер многіх іншых плацяжоў. У любым выпадку павелічэнне грашовай масы будзе стымуляваць інфляцыю і прыводзіць зноў-такі да росту цэнаў.

Хто акажацца ў найбольшым мінусе? Як ні дзіўна, прадпрымальнікі, бо памер арэнднай платы скокне адразу ўтрая. Далей – правапарушальнікі, бо ўсе штрафы прывязаны да базавай велічыні. Так за безбілетны праезд у грамадскім транспарце прыйдзецца заплаціць ужо 20 000 рублёў. Максімальны штраф за ўжыванне алкагольных напояў скокне да 1,5 мільёна. А нецэнзурная лаянка ў грамадскіх месцах будзе каштаваць ужо да трох мільёнаў. Значна большыя сумы прыйдзецца плаціць студэнтам за пражыванне ў інтэрнатах, якое складзе ад адной да трох базавых велічынь. Замест сённяшніх 35 – 105 000 адразу ад 100 да 300 000.

З першага красавіка ўтрая падаражэюць афармленне вадзіцельскіх правоў, падача дакументаў у ЗАГС, замена пашпарту і г. д. Каб ажаніцца, давядзецца заплаціць ужо 100 000 рублёў. Замена пашпарту на новы будзе каштаваць 50 000.

"Крывінка" раіць сваім чытачам загадзя паклапаціцца пра свае неадкладныя плацяжы.

Л.Паўлава.



## АБ'ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць, то патэлефануйце.***
- ***Рэдакцыя «Крывінкі» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Крывінка».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам.***

ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ

# ЭХ, ДАРОГІ…

Амаль увесь першы сакавіцкі тыдзень і пачатак другога жыхары перыферычных вуліц райцэнтра атрымалі не такую ўжо і рэдкую за апошнія гады магчымасць уволю пакоўзацца. У коўзанкі ператварыліся усе нецэнтральныя вуліцы. Праўда, коўзанкі тыя няроўныя, небяспечныя. Вуліцы сталі такімі пасля таго, як адліга першых дзён сакавіка змянілася ўстойлівымі маразамі.

Тое, што можна было лёгка счысціць з дарогі ў час адлігі, умомант ацвярдзела, закамянела і засталося такім на цэлую дэкаду. Цэлыя вуліцы кшталту Савецкай ці Мендэлеева прарэзала ледзяная каляя, якая то знікае, то зноў праразае лёд да зямлі. Уладальнікам машын перасоўвацца стала працай: кідай штурвал і рухайся сабе, усё роўна машына нікуды з каляіны не дзенецца. Вось толькі пры раз'ездах даволі складана. А пешаходам не пазайздросціш: у іх суцэльная буксоўка.

Мы прывыклі да такой сітуацыі, што паўтараецца з году ў год і скардзімся на капрызы надвор'я. І няўцям, што пры чалавечым падыходзе да праблем простага чалавека, дарогі можна трымаць у больш-менш нармальным стане.

Скажаце, наша ўлада гэтага не разумее? Разумее выдатна. Бо, калі б у гэты час праходзілі якіясьці выбары, то вуліцы былі б па крайняй меры пасыпаныя пяском. А, магчыма, іх бы своечасова пачысцілі. Карацей кажучы, сітуацыю трымалі б, як любяць выказвацца самі чыноўнікі, на кантролі. А сёння…

Чарговы раз прыходзіцца канстатаваць факты, якія сведчаць, што мы не маем дзейснай арганізацыі, якая працавала б у жыллёва-гаспадарчай галіне. Пакуль што вялікая і непаваротлівая ЖКГ у стане больш-менш здавальняюча кантраляваць тры галоўныя вуліцы райцэнтра і абслугоўваць пару вуліц, што прылягаюць да райвыканкаму ў цэнтры горада. Ці не прыйшла пара пашыраць сферу абслугоўвання на перыферыю? Можна пачаць з маленькага эксперыменту: перадаць аднаму чалавеку хаця б на адну зіму, скажам, вуліцу Савецкую. Зразумела, забяспечыць яго трактарам і вызваліць ад іншай працы "на благо родіны". Думаю, коўзанак на вуліцы зімой значна паменее.

Пара ад слоў пра клопат аб грамадзянах пераходзіць да канкрэтных справаў!

**М.Васільеў.**

ПА СЛЯДАХ НАДРУКАВАНАГА

# "Крывінка" прыносіць прабачэнні

У "Крывінцы" №2(103) у артыкуле М.Васільева "Хто паклапоціца пра простага чалавека" была надрукавана інфармацыя пра налічэнне грошай за бальнічныя лісты ў Бешанковіцкім РЭСе. На жаль інфармацыя і каментар да яе былі дадзены неаб'ектыўна, без неабходнай праверкі фактаў. Рэдакцыя "Крывінкі" прызнае сваю памылку і друкуе ў абвяржэнне вытрымкі ліста, які яна атрымала з Віцебскіх электрасетак.

"Аплата бальнічных лістоў у РБ ажыццяўляецца згодна Пастановы савета Міністраў РБ ад 30.09.1997г. № 1290 "Аб зацвярджэнні Палажэння аб парадку забеспячэння дапамогі па часовай непрацаздольнасці і па цяжарнасці і родах", з зменамі і дадаткам ад 12.12.2003г. № 1606. Згодна гэтаму палажэнню працуючым, у якіх улік працоўнага часу вядзецца ў гадзінах, дапамога па часовай непрацаздольнасці назначаецца за прапушчаныя працуючым часы, якія ўстаноўлены графікам работы на месяц. Ніякага іншага метада разліку ніводнае пардпрыемства ўвесці не можа. Дыспетчары ў Віцебскіх электрасетках працуюць згодна графіка, а не пазменна, і для іх прымяняецца суміраваны ўлік працоўнага часу.

Бальнічныя лісты аплочваюцца за кошт сродкаў Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва, а не за кошт сродкаў прадпрыемства, і ніяк не уплываюць на фонд зарплаты. Ніхто прэмій за эканомію фонда зарплаты ў электрасетках ніколі не атрымоўваў."

Рэдакцыя "Крывінкі" прыносіць прабачэнні асобам, чый гонар быў закрануты ва ўпамянутым артыкуле, а таксама чытачам, якія былі заведзены ў зман неправеранай інфармацыяй. Рэдакцыя будзе прыкладаць усе намаганні, каб падобнае больш не паўтарылася і пільна правяраць атрыманую інфармацыю.

**Г.Станкевіч.**

# ПРЫВАКЗАЛЬНЫ БУФЕТ

Гады з два таму бешанковіцкі аўтавакзал перажыў сваё другое нараджэнне. Яго добраткі паднавілі, змянiўшы як знешні воблік, так і ўнутранае начынне. Праўда, беларускасці, апроч назвы на будынку, тут не дадалося, але ў новай Беларусі аб тым пакуль што не вельмі дбаюць. Дбаюць тут, як гэта штодзень прамаўляецца з экранаў і пішацца ў газетах, пра простага чалавека. А таму здаецца зусім неверагодным, што рэканструктары будынка не паклапаціліся пра ўстанову грамадскага харчавання, дзе пасажыры і кіроўцы аўтобусаў маглі б нармальна паесці.

А мець яе на аўтавакзале не пашкодзіла б. Па-першае, гэта было б папаўненне раённага бюджэту. Бо елі б тут пераважна транзітныя пасажыры, тыя, якія едуць здалёк, зарана пакідаюць свае хаціны і не заўжды маюць на тое час, каб паесці. Па-другое, ў кавярні харчаваліся б і кіроўцы аўтобусаў, як свае, так і транзітныя. Праўда, апошнія надзялялі б увагай установу харчавання толькі пры адной умове: якасныя і недарагія стравы. Ну і, нарэшце, калі якасныя і недарагія стравы сталі б рэальнасцю, адбою ад кліентаў у кавярні не было б. Сюды завіталі б і тыя, хто проста хацеў бы са смакам пад'есці.

Дзе б мусіла размясціцца такая ўстанова? Адказ на пытанне няпросты, але і не настолькі складаны, каб з-за адсутнасці месца адмовіцца вырашаць існую праблему. Ясна, што ўстанова мусіць быць на месцы, а не ў райвыканкаме, дзе, здаецца, народныя абраніікі і так планавалі адкрыць нейкі буфет. Месца ў будынку аўтавакзала знайсці можна, і для гэтага не трэба дабудоўваць новы паверх. Напрыклад, калі перанесці пакой для маці і дзіцяці ў іншае месца, то ў гэтым памяшканні можна размясціць буфет. Варыянтаў існуе шмат, толькі ў тым, каб абраць найбольш прыгодны варыянт.

Ці зможа ўлада, для якой невырашальным пытаннем з'яўляецца нават адшукаць прадаўца ў шараговы магазін, вырашыць праблему? Няўжо прыйдзецца пісаць у дзяржаўныя выданні, тэлефанаваць на наўпроставыя лініі, даваць даручэнні дэпутатам?

**Г. Станкевіч.**

НАША ЖЫЦЦЁ

# ЗАЛАПІЦЬ ДЗІРКІ,

## *або чаму баль у нас правяць чыноўнікі*

Згодна афіцыйным дадзеным, на мерапрыемствы па дабраўпарадкаванню на 2012 год бешанковіцкая жыллёва-камунальная гаспадарка атрымае 895 мільёнаў рублёў. Каб даведацца, ці вялікая гэта сума, можна параўнаць яе, напрыклад, з гадавым фондам зарплаты работнікаў райвыканкама. Мне невядома гэта лічба, і лічаць яе нібыта за вялікую таямніцу, але яе можна больш-менш дакладна разлічыць. Працуе ў РВК, на маю думку, не менш за сорак чыноўнікаў. Кожны з іх атрымоўвае не менш 2,5 мільёнаў рублёў у месяц. Значыць, за месяц усе разам яны атрымаюць 100 мільёнаў, а за год 1, 2 мільярда беларускіх рублёў. То бок больш, чым выдзеляецца камунальнікам на навядзенне парадку ў цэлым райцэнтры. Каму недастаткова гэтага разліку, прыводжу яшчэ адно параўнанне. Кошт новай іншамаркі сярэдняга класу ў беларускіх рублях складае нешта паміж 200 – 300 мільёнамі. То бок тры іншамаркі для чыноўнікаў – гэта і ёсць кошт гадавога бюджэту нашага камунгаса.

Цяпер прыкінем, што можна за суму, якая выдзяляецца ЖКГ, зрабіць у райцэнтры. Самі камунгасаўцы плануюць залапіць дзірак на дарозе на плошчы ажно 3 000 квадратных метраў. Ці шмат гэта? Калі б яны не лапілі дзіркі, а паклалі суцэльны слой асфальту, то пры шырыні дарогі ў 3 метры даўжыня яе склала б роўна адзін кіламетр. Усяго адзін кіламетр новай дарогі! Пры сучаснай тэхніцы для асфальтаўкладкі гэты кіламетр можна было б пакласці за тры дні. Але такая работа сёлета ў райцэнтры не плануецца.

Затое тут плануецца адрамантааць амаль пяць кіламетраў вуліц з гравійным пакрыццём. Гэта не можа не радаваць, бо ўсе мы ведаем пра стан большасці вуліц у райцэнтры. Але ж рамонт рамонту рознь. Можна папасавыпваць большыя ямкі магільным пяском, трошкі спрафіляваць і сказаць – "Усё. Выканана." А праз месяц на вуліцах будуць па-ранейшаму стаяць лужыны, як гэта ў нас часцяком і здараецца. Іншая справа, калі рамонт правядуць сур'ёзна, не парушаючы тэхналогіі, зрабіўшы падсыпку добрым гравіем. Хто мне можа вось так адразу прыпомніць, дзе ў райцэнтры за апошнія часы быў такі рамонт?

Астатнія сродкі, што выдзяляюць ЖКГ, пойдуць на рамонт і замену вадаадводных труб, пасадку дрэў, кустоў і кветак, а таксама на дабраўпарадкаванне аж трох (!!!) двароў у Бешанковічах.

У чытачоў могуць ўзнікнуць справядлівыя пытанні: а куды ж дзяюцца нямалыя сродкі падаткаплацельнікаў? Чаму на рамонт дарог выдзяляецца такі мізэр? Армія ж аўтаўладальнікаў з кожным годам расце, як расце і сума падаткаў, што яны змушаны штогод плаціць. Дык вось, я раю такім чытачам паставіць гэта пытанне перад сваімі дэпутатамі. А ў дадатак у іх можна запытацца, чаму ваш асабісты аўтамабіль каторы год стаіць у лужыне пад вакном вашага пяціпавярховіка, а не на добрай заасфальтаванай пляцоўцы. Чаму вас змушваюць ездзіць па адрамантаваных ямачным рамонтам вуліцах, а не па новым асфальце, які кладуць чамусьці толькі на тыя дарогі, якімі праедзе прэзідэнт пры чарговым візіце. Калі ж вам і так зразумелы адказ на гэтыя пытанні, то мне застаецца толькі напомніць: улада ў нас – народная, то бок і ваша таксама. Дык не апускайце рук, не саромцеся патурбавацца пра свае правы. Не за гарамі выбары ў Палаты, а там і ў мясцовыя Саветы. Менавіта дэпутаты райсавета дзеляць сродкі, якія ім выдзяляе абласны Савет. Дык запытайцеся, куды тыя сродкі ідуць і чаму. Пакуль што, паколькі бальшыні з нас напляваць на тыя выбары, як і на фарміраванне бюджэту, баль у нас правяць чыноўнікі.

**Г.Станкевіч.**

НАША ГІСТОРЫЯ

# ГРАМАДЗЯНСКАЯ ВАЙНА 1812-ГА ГОДА

Чым бліжэй насоўваецца юбілей падзеяў 1812-га года, тым больш сустракаеш у СМІ рознага кшталту артыкулаў пра тую вайну. Шматлікія беларускія "гісторыкі", якія атрымоўваюць сваю зарплату ў ідэалагічных аддзелах, пішуць пра Вялікую перамогу беларускага народу ў цяжкой вайне. Зноў-такі рыхтуюцца ўрачыстасці, якіх не будзе пазбаўлены і наш раён.

Так, на Астровенскай зямлі мы баранілі Расею ад французаў. Менавіта такі пункт погляду існуе на ўдзел беларусаў у гэтай вайне. Але ж беларусы ваявалі і на баку Напалеона, у складзе яго войска. І таму трактоўка, што мы баранілі Расейскую імперыю не вытрымлівае ніякай крытыкі.

Вядома, што вайна, дзе з абодвух бакоў ваююць грамадзяне адной краіны, называецца грамадзянскай. І гэта найгоршы тып вайны, бо колькасць ахвяраў у ёй вельмі вялікая. Для Расейскай імперыі гэта была іншая вайна, бо расейскія войскі ў складзе арміі Напалеона адсутнічалі. Напалеон для рускіх быў агрэсарам, які пасягаў на іхнюю дзяржаву. А што баранілі ў гэтай вайне беларусы, якіх незадоўга да яе пачатку гвалтам уключылі ў склад Расейскай імперыі?

Успомнім, што за 17 гадоў да вайны з Напалеонам (у 1795-м годзе) адбыўся апошні падзел Рэчы Паспалітай. Падзел – гэта фактычны захоп краіны, увядзенне расейскіх войск на тэрыторыю нашай краіны, якая да таго часу ўваходзіла ў склад Польскага каралеўства. То бок у 1812-м годзе Беларусь не мела дзяржаўнасці, не існавала як незалежная краіна. Зняўшы з шыі польскае ярмо, ёй толькі што надзелі ярмо расейскае. Калі да 1795-га году беларускія хлопы служылі ў арміях польскіх магнатаў, то пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай іх пагнала ў рэкруты расейская імператрыца. Менавіта з таго часу і пачалася русіфікацыя нашага краю, якая не скончылася і дасёння.

Зразумела, што і ў тыя часы існавала ідэалогія дзяржавы, якую праводзілі ў жыццё чыноўнікі. Яны ўбівалі ў галовы маладых рэкрутаў, каб тыя забыліся пра родную мову і пра сваю родную хату, а служылі царыцы-матухне і цару-бацюхну, абаранялі "отечество". І тое расейскім чыноўнікам у значнай ступені ўдалося ажыццявіць. Але ж сёння вядома ўся фальшывасць слоў наконт абароны гэтага чужога нам "отечества". Мужык-беларус не меў вольнага выбару. І калі ён бараніўся пад Астроўнам, ён бараніў у першую чаргу сябе самога. Як бароняць сябе ад любой небяспекі. Як баранілі сябе сяляне, у якіх напалеонаўскія салдаты адбіралі ежу і фураж. Тыя ж беларусы, хто наступаў на баку Напалеона ў конніцы Радзівіла, марылі пра тое, каб аднавіць Рэч Паспалітую ці ВКЛ.

У выніку вайны 1812-га года, на жаль, не ўзнікла незалежная беларуская дзяржава. Хаця, калі б перамог Напалеон, прадпасылак для яе ўзнікнення было б, мажліва, больш. Але перамагла Масква, і беларусы распачалі доўгі, даўжынёй амаль у 200 гадоў, шлях да сваёй незалежнасці. Шлях надзвычай цяжкі, з вялізнымі ахвярамі. Фармальна ён ужо нібыта і скончыўся, але фактычна – яшчэ не. Фактычна мы станем незалежнымі, калі перастанем святкаваць чужыя перамогі, а загады ў сваёй маленькай арміі пачнем аддаваць на роднай мове .

**Г.Станкевіч.**

МЫТНЫ САЮЗ

# ЯКІ «ДАНАЙСКІ СЮРПРЫЗ» ХАВАЎСЯ ЗА МЫТНЫМ САЮЗАМ?

ДАДЗЕНЫЯ ПА ФУНКЦЫЯНАВАННЮ БЕЛАРУСКАЙ ЭКАНОМІКІ ВА ЎМОВАХ МЫТНАГА САЮЗА З КОЖНЫМ ДНЁМ УСЁ БОЛЬШ І БОЛЬШ ДЭМАНСТРУЮЦЬ, ШТО ЧАКАННІ УЛАДАЎ АДНОСНА ПЕРСПЕКТЫЎ, ЯКІЯ ДЛЯ НАС АДКРЫВАЮЦЦА, АПЫНУЛІСЯ ПАДМАННЫМІ.

Адным з галоўных аргументаў беларускіх уладаў пры падпісанні ключавых дамоўленасцяў адносна функцыянавання Мытнага саюза, быў велізарны расійскі рынак, які адкрыецца для нашых прадпрыемстваў. Маўляў, гэта дазволіць Беларусі ў разы павялічыць экспарт і праз гарантаваны збыт сваёй прадукцыі, гарантаваць і стабільнасць айчыннай эканомікі. Дзеля гэтага мы ўзнялі пошліны на ўвоз аўтамабіляў, наступіўшы на горла сваім грамадзянам. Дзеля гэтага адкрылі краіну для драпежнага расейскага капіталу, тым самым адсунуўшы ў бок айчынны бізнэс.

Мы адкрылі вароты і самі завалаклі на сваю тэрыторыю данайскія падарунак, не падазраючы, які сюрпрыз нас чакае.

**Два рынку - два свету**

Калі Расія адкрывала для Беларусі свой рынак, яна зусім нічым не рызыкавала. Нават калі ўсе беларускія прадпрыемствы разам пачнуць працаваць выключна на Расею, гэта толькі трохі абвострыць канкурэнцыю на рынку і не больш за тое. Расея цалкам здольная пераварыць прадукцыю ўсіх беларускіх прадпрыемстваў і нават не папярхнецца. Нават нястраўнасці не атрымае. Максімум - атрымае задаволеную адрыжку, як пасля сытнага абеду.

Зусім іншая справа - адкрыты рынак Беларусі для расейскіх прадпрыемстваў, якія апошнія 20 гадоў і развіваліся ў зусім іншых больш свабодных умовах, і маркетынг маюць такі, які нашым лідэрам прамысловасці, якія звыкліся спадзявацца на дзяржпадтрымку, нават і не сніўся.

Менавіта таму яшчэ да падпісання асноватворных дакументаў па Мытным саюзе, многія беларускія эксперты сцвярджалі, што вынікам гэтага саюза вельмі хутка стане паглынанне Беларусі Расеяй. Тады многія над гэтым пасмяяліся, але сёння дадзеныя беларускай статыстыкі пацвярджаюць гэтыя асцярогі.

**Станоўчае сальда і зрокавыя ілюзіі**

Мінулы 2011 год стаў для Беларусі сапраўдным выпрабаваннем. Імклівае падзенне беларускага рубля, гіперінфляцыя, распродаж асноўных актываў краіны - гэта толькі пачатак канца, які бачаць незалежныя эксперты.

Улады Беларусі ўжо да канца года пачалі супакойваць народ, што дэвальвацыя рубля, дапамагла беларускай эканоміцы аздаравіцца і істотна нарасціць свой экспарт. Маўляў, гэта як кровапусканне, якое хоць і непрыемна, але яшчэ ў старажытныя часы ўжывалася для абнаўлення арганізма.

І сапраўды, калі паглядзець на дадзеныя Белстата, то Беларусь упершыню за апошнія гады выйшла на дадатнае сальда знешняга гандлю і нарошчвае яго месяц ад месяца.

Так, калі параўнаць вынікі знешняга гандлю за студзень 2012 года са студзенем 2011 года, то мы атрымаем павелічэнне знешнегандлёвага абароту на 2,383 мільярда даляраў (на 55,3 працэнта). Пры гэтым экспарт беларускай прадукцыі павялічыўся на 1,623 мільярда даляраў (на 91,1 працэнт), а імпарт вырас усяго 757млн. даляраў (на 30 адсоткаў), што дало нам станоўчае сальда ў 126,1 мільёна даляраў.

Гэтыя лічбы глядзяцца яшчэ больш аптымістычней, калі прыняць да ўвагі, што дадзеная тэндэнцыя, як кажуць беларускія ўлады, не часовая, а больш-менш пастаянная на працягу як мінімум апошніх шасці месяцаў. Нацбанк нават праводзіць інтэрвенцыі, каб не даць беларускаму рублю ў гэтай спрыяльнай сітуацыі занадта адужэць і падоўжыць гэтае шчаслівае імгненне.

На самой справе гэта ўсяго толькі падман, зрокавая ілюзія прыгожага данайскага каня, усярэдзіне якога хаваюцца непрыемныя сюрпрызы. Яны выразна бачныя, калі паглядзець дадзеныя па знешнім гандлі ў рамках Мытнага саюза, ў прыватнасці з Расіяй.

Так, паводле дадзеных Белстата, за студзень 2012 года да студзеня 2011 года знешнегандлёвы абарот ўнутры МС павялічыўся на 1,119 мільярда даляраў або на 53,7 працэнта. Але - вось сюрпрыз! - беларускі экспарт павялічыўся ўсяго на 147 мільёнаў даляраў (на 19,3 працэнта), у той час як імпарт вырас на 968 мільёнаў даляраў (на 77,8 працэнта). Іншымі словамі рост імпарту над ростам экспарту апынуўся чатырохразовым (!). І гэта пры аслабелым беларускім рублі (!), у выніку чаго беларускія тавары атрымалі цэнавую перавагу перад канкурэнтамі ўнутры МС.

Калі паглядзець дадзеныя канкрэтна па Расіі, то карціна атрымліваецца яшчэ больш палахлівая. Так, па дадзеных Белстата, за студзень экспарт у Расію павялічыўся ўсяго на 17,5 адсоткі, у той час як імпарт - на 79 адсоткаў. Як вынік -- рост адмоўнага сальда аж у 3 (!) разы, з мінуса 386 млн. даляраў, да мінус 1,21 мільярда даляраў.

Дык хто і для каго адкрыў свой рынак? Тут яшчэ трэба ўлічыць, што пэўную станоўчую ролю адыграла дэвальвацыя беларускага рубля, якая дазволіла нашым прадпрыемствам адносна стабільна пратрымацца на расійскім рынку і нават выклікаць незадавальненне некаторых канкурэнтаў з боку Вялікага брата. А што будзе, калі беларускі рубель ізноў ўмацуецца?

**Аляксандр Надзішын, «Штодзённік»**

ПАЛІТЫЧНЫЯ ВЯЗНІ

# АЛЕНА КАВАЛЕНКА: «ТАКОЕ ЛЯЧЭНЬНЕ - ЯК КАТАВАНЬНЕ»

ЖОНКА ГАЛАДОЎНІКА СЯРГЕЯ КАВАЛЕНКА АЛЕНА ЗЬБІРАЕЦЦА СКАРДЗІЦЦА НА ДЗЕЯНЬНІ ПА ПРЫМУСОВЫМ ВЫВАДЗЕ ЯЕ МУЖА З ГАЛАДОЎКІ. ЦІ ПЕРАВЯЛІ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА З КАРАНТЫНУ Ў АТРАД? МІКАЛАЙ СТАТКЕВІЧ ТУРБУЕЦЦА ПРА ЗЬМІТРА ДАШКЕВІЧА. ПАВАЛ СЕВЯРЫНЕЦ НЕ ВЫКЛЮЧАЕ, ШТО ПЕРШЫМ З ПАЛІТВЯЗЬНЯЎ ВЫЗВАЛЯЦЬ ЗЬМІТРА БАНДАРЭНКУ.

Алена Каваленка зьбіраецца абскарджваць дзеяньні адміністрацыі менскага ізалятару па прымусовым вывадзе яе мужа з галадоўкі. «Гэта не лячэньне, а катаваньні», — кажа Алена Каваленка пра тое, што ў выніку гвалтоўных дзеяньняў Сяргею Каваленку паставілі крапельніцу, пасьля чаго ў яго ўтварылася гематома на руцэ. Таксама Алена Каваленка будзе абскарджваць рашэньне аб прымусовым абсьледаваньні мужа ў псыхіятрычнай лякарні. Жонка вязьня працытавала ліст, які атрымала сёньня з Дэпартамэнту выкананьня пакараньняў: «„14.03.2012 году Каваленка С. А. агледжаны дацэнтам катэдры псыхіятрыі і наркалёгіі Беларускай мэдыцынскай акадэміі пасьлядыплёмнай адукацыі. Выстаўлены дыягназ — расстройства адаптацыі. Рэкамэндавана псыхіятрычнае абсьледаваньне на прадмет удакладненьня дыягназу і магчымага лячэньня з мэтай прадухіленьня наступстваў, якія небясьпечныя для здароўя. На падставе рэкамэндацый зараз вырашаецца пытаньне аб далейшым лячэньні Каваленкі С. А. ў псыхіятрычнай лячэбнай установе з мэтай спыненьня адмовы ад прыёму ежы". Атрымліваецца, што ў звычайны шпіталь яго не кладуць, а зьбіраюцца пакласьці ў псыхушку і зрабіць зь яго вар'ята. Гэта я лічу працягам катаваньняў і зьдзекам, працягам таго, што ўчора яны пачалі яго прымусова лячыць».

Алена Каваленка з братам Сяргея Віталём зьбіраюцца 19 сакавіка прыехаць у Менск, каб сустрэцца зь Сяргеем Каваленкам. «Не выключаем, што ён будзе ўжо ў Навінках і сустрэчу не дазволяць, але ў нас няма іншага выйсьця», — кажа жонка галадоўніка.




Праваабаронца Алесь Бяляцкі даслаў жонцы ліст, у якім прадказвае, што 15 сакавіка яго могуць перавесьці з ізалятару ў атрад. «Ці перавялі сапраўды, невядома, але магчыма, што наступны ліст напіша ўжо з атраду», — кажа Натальля Пінчук. Пра здароўе і самаадчуваньне Алесь Бяляцкі нічога не напісаў, але паводле ліста Натальля робіць выснову, што настрой у мужа бадзёры:

Пішу, што і на паветра выходзіць, і прыроду бачыць, і сонца вясновае адчувае.

Мікалай Статкевіч, былы кандыдат на прэзыдэнта, таксама піша, што шмат выходзіць на прагулкі і радуецца вясьне, якая прыйшла і ў турэмны дворык Магілёўскай калёніі. Пасьля першага за 7 месяцаў зьняволеньня тэлефоннага званку ад мужа жонка палітвязьня Марына Адамовіч атрымала ад яго яшчэ два лісты. У адным зь іх Мікалай Статкевіч выказвае занепакой лёсам Зьмітра Дашкевіча, якога днямі зноў зьмясьцілі ў карцэр Глыбоцкай калёніі. Як можа далей скласьціся лёс Дашкевіча паводле Мікалая Статкевіча?

«У апошнім лісьце піша, што зь ім могуць быць наступныя варыянты. Альбо яго рыхтуюць да пераводу ў крытую турму, альбо вядуць на 411 артыкул. Альбо каб проста даць яшчэ на паўгады ПКТ — памяшканьне камэрнага тыпу. Варыянт 411-га палохае болей за ўсё», — кажа Марына Адамовіч.

411 артыкул Крымінальнага Кодэксу — гэта злоснае парушэньне патрабаваньняў адміністрацыі месцаў пазбаўленьня волі. Максымальнае пакараньне за гэтае злачынства — да 2 гадоў пазбаўленьня волі. Паводле пакараньня, якое зараз адбывае Зьміцер Дашкевіч, яго мусяць вызваліць у сьнежні.

«Хімік» Павал Севярынец у вольны час піша чарговы артыкул — зараз да 80-годзьдзя пастара Эрнста Сабілы. На пытаньне, ці магчыма ў хуткім часе вызваленьне каго з палітвязьняў, Павал Севярынец адказаў гэтак: «Пра сябе я не чакаю гэтага. Адзінае, што дапускаю, што могуць вызваліць бліжэйшымі днямі Дзьмітрыя Бандарэнку. Гэта, мяркую, будзе. Усё астатняе, напэўна, будзе па адным і расьцягнецца на доўгія месяцы. Таму што бачна, што Лукашэнка вядзе гандаль, гандлюе людзкімі лёсамі».

СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ

# «Расстрэл Кавалёва – гэта ірацыянальныя паводзіны хворага чалавека»

НАМЕСНІК СТАРШЫНІ БЕЛАРУСКАГА ХЭЛЬСЫНСКАГА КАМІТЭТУ ГАРЫ ПАГАНЯЙЛА КАЖА, ШТО ЯМУ ЦЯЖКА МЕРКАВАЦЬ, ШТО СТАІЦЬ ЗА ТАКОЙ ХУТКАСЦЮ ВЫКАНАНЬНЯ ПРЫСУДУ КАВАЛЁВУ, БО ЁН НЯ ВЕДАЕ ЎСІХ АКАЛІЧНАСЦЯЎ.

Але многія, хто выказваў сумневы адносна справядлівасці гэтага прысуду, шматлікіх супярэчнасцяў і падчас следства, і падчас судовага працэсу маюць рацыю:

– Многія хочуць, хто меў дачыненне да гэтага працэсу, каб хутчэй расстралялі, і канцы ў ваду. Я думаю, што той, ад каго залежаў лёс гэтых хлопцаў, і асабліва Кавалёва (таму што многія разлічвалі на тое, што Кавалёва могуць памілаваць, і варта было б памілаваць) проста дзейнічае на хвалі жорсткай канфрантацыі, крытыкі і жорсткай размовы з Захадам. Вядома, што ў Камітэце па правах чалавека ААН разглядаецца скарга і асуджанага, і маці.

І гэта ўжо трэці выпадак, калі пры наяўнасці просьбы Камітэту ААН, звернутай да ўраду, не прыводзіць прысуд у выкананне да разгляду індывідуальнай скаргі, урад паступае такім чынам. Гэта сведчыць пра грэбаванне, ігнараванне вызначанага міжнароднага парадку, аўтарытэту міжнародных праваабарончых органаў.

Гэта нават не выклік. Я нават не магу ахарактарызаваць, што гэта такое. Гэта ірацыянальныя паводзіны хворага чалавека, які не ведае, што творыць. Рэакцыя міжнародных арганізацый будзе жорсткай. Будуць вялікія іміджавыя страты ў краіны.

**Крыніца: «Радыё Свабода»**

ЖАЛЕЗНЫ ЗАНАВЕС

# СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ ПАПОЎНІЎ «СПІС НЕВЫЯЗНЫХ»

18 САКАВІКА НА СТАНЦЫІ ГУДАГАЙ НА БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКАЙ МЯЖЫ ЯГО ССАДЗІЛІ З ЦЯГНІКА «МЕНСК-ВІЛЬНЯ».

Як распавёў "Салідарнасці" палітык, ён ехаў у Вільню адразу па некалькіх справах.

— Я павінен быў браць ўдзел ў Днях беларускай культуры, што праходзяць у Літве, павінны былі быць мерапрыемствы ў Сейме, — падзяліўся нерэалізаванымі планамі палітык. — Былі і іншыя справы. І вельмі шкада, што яны засталіся нерэалізаваныя.

На мяжы на станцыі Гудагай палітыка знялі з поезда.

— Мне сказалі, што такі ў іх загад, — адзначае Шушкевіч. — Капітан прама заявіў: "Калі я вас выпушчу, то заўтра мяне пасадзяць у турму. Так што зараз еду на дызельцягніку ў Маладзечна. Потым — у Маскву. Мала таго, што мяне пазбавілі пенсіі і магчымасці працаўладкавацца на радзіме, так яшчэ і пазбаўляюць магчымасці зарабіць за мяжой. Што ж, паспрабую тады зарабіць у Маскве.

Як вядома, у сакавіку за межы Беларусі не змаглі выехаць кіраўнік АГП Анатоль Лябедзька і яго намеснік Аляксандр Дабравольскі, каардынатар кампаніі «За справядлівыя выбары» Віктар Карняенка, кіраўнік Партыі левых «Справядлівы свет» Сяргей Калякін. Трапілі ў спіс невыязных праваабаронца цэнтру «Вясна» Валянцін Стэфановіч, кіраўнік БХК Алег Гулак, праваабаронца БХК Гары Паганяйла, а таксама кіраўніца БАЖ Жанна Літвіна, прадстаўнік «Белсату» Міхал Янчук, шэф-редактар газеты «Наша Ніва» Андрей Дынько.

**Анастасія Зелянкова.**

ПРАБЛЕМЫ РЭФОРМАЎ

# ЗАЦЯГВАННЕ СТРУКТУРНЫХ РЭФОРМАЎ - ДАРОГА Ў ДАЎГАВУЮ ЯМУ

СУКУПНЫ ЗНЕШНІ ДОЎГ БЕЛАРУСІ, ПАВОДЛЕ ЗВЕСТАК НАЦБАНКА, ДАСЯГНУЎ 34 МЛРД. 28,4 МЛН. ДАЛЯРАЎ, АБО 62,3% ВУП. ЗА 2011 ГОД ЁН ВЫРАС НА 19,8%. ЗНЕШНІ ДОЎГ УРАДА НА 1 ЛЮТАГА СКЛАЎ 11 МЛРД. 822 МЛН. ДАЛЯРАЎ. ЭКСПЕРТЫ АЦЭНЬВАЮЦЬ СІТУАЦЫЮ ЯК ДОСЫЦЬ ТРЫВОЖНУЮ. НЕБЯСПЕКА, ПА ІХ СЛОВАХ, УЯЎЛЯЕ НЕ СТОЛЬКІ ПАМЕР ЗНЕШНЯГА ДОЎГУ, КОЛЬКІ АДСУТНАСЦЬ СТРУКТУРНЫХ РЭФОРМАЎ У ЭКАНОМІЦЫ. БЕЗ ІХ ПАГРАЖАЕ ЗВАЛЬВАННЕ Ў ДАЎГАВУЮ ЯМУ.

Па законе аб бюджэце, на абслугоўванне аднаго толькі вонкавага дзярждоўгу ў 2012 годзе прадугледжана накіраваць 1,631 млрд. даляраў. Пры гэтым самыя буйныя плацяжы - 562,91 млн. даляраў - павінны пайсці на пагашэнне крэдыту Міжнароднага валютнага фонду ў 3,46 млрд. даляраў, які Беларусь атрымала ў 2009-2010 гадах.

Урад разлічваў рэфінансаваць запазычанасць перад МВФ за кошт новага крэдыту фонду, аднак планам гэтым, мяркуючы па ўсім, спраўдзіцца не наканавана. На брыфінгу 5 сакавіка прадстаўнік МВФ Крыс Джарвіс заявіў: «Мы не рэфінансіруем той доўг, які краіна мае перад намі».

Джарвіс узначальваў місію экспертаў, якая працавала ў Мінску з 22 лютага па 6 сакавіка. На выніковым брыфінгу ён абвясціў ўмовы, на якіх Беларусі можа быць выдзелены новы крэдыт.

Прадстаўнік МВФ адзначыў поспехі ўрада ў плане зніжэння інфляцыі і скарачэння знешніх дысбалансаў, а таксама вітаў прынятую урадам і Нацбанкам «узважаную эканамічную палітыку на 2012 год: збалансаваны бюджэт, жорсткія абмежаванні крэдытавання ў рамках дзяржаўных праграм і надзейны кантроль за крэдытам».

Аднак, падкрэсліў Джарвіс, МВФ павінен быць упэўнены ў тым, што «людзі і структуры, якія адказваюць за прыняцце рашэнняў на самым высокім узроўні, падтрымліваюць прапанаваныя меры эканамічнай палітыкі».

Кіраўнік місіі падверг крытыцы шэраг запланаваных паказчыкаў. Так, паводле яго слоў, «мэтавы паказчык эканамічнага росту на ўзроўні 5% на 2012 год не адпавядае захоўваецца неабходнасцю далейшага зніжэння інфляцыі». «Мы таксама лічым, што было б памылковым значна павышаць заробак, пакуль не ўсталюецца больш трывалая стабільнасць», - сказаў Джарвіс.

Заўчасным лічыць МВФ і зніжэнне стаўкі рэфінансавання Нацбанка да 38%. «Ураду варта вызначыць палітыку структурных рэформаў, арыентаваных на павышэнне прадукцыйнасці і эканамічнага росту», - падкрэсліў Джарвіс.

МВФ рэкамендуе Беларусі правесці лібералізацыю цэн; узмацніць самастойнасць кіраўніцтва дзяржпрадпрыемстваў; спрасціць ператок рабочай сілы з галін, у якіх назіраецца спад, у якія растуць галіны; ўмацаваць ролю прыватнага сектара шляхам рэфармавання банкаў, прыватызацыі прадпрыемстваў і мер, якія дазваляюць прыцягнуць інвестыцыі як замежных, так і беларускіх прадпрымальнікаў.

Крыс Джарвіс таксама падкрэсліў: неабходна пераканацца ў тым, што новая праграма крэдытнага супрацоўніцтва з Беларуссю будзе падтрымана ўсімі краінамі-членамі МВФ.

На пытанне, ці можа паўплываць на рашэнне МВФ абвастрэнне адносін паміж Мінскам і Бруселем, прадстаўнік фонду адказаў вельмі дыпламатычна: «Мы не можам гэта прадбачыць, што будзе ўплываць на рашэнне і паводзіны краін-членаў МВФ».

У сваю чаргу, беларускія ўлады пэдалююць менавіта палітычны аспект праблемы супрацоўніцтва з МВФ. Як заявіла 7 сакавіка ў інтэрв'ю агенцтву БелТА старшыня праўлення Нацбанка Надзея Ермакова, «прадстаўнікі МВФ, якія былі тут, не хаваюць, што ў большай ступені маюць уплыў палітычная сітуацыя і палітычныя пытанні, згода краін-удзельніц МВФ працаваць з Беларуссю па новай праграме».

Па словах Ермаковай, Беларусь абыдзецца без крэдыту МВФ. «Высновы, якія яны зрабілі з нагоды таго, што трэба затармазіць рост рэальнай заработнай платы і, магчыма, нават яе знізіць, напэўна, не ўкладваюцца ў нармальнае разуменне, - заявіла кіраўнік Нацбанка. - Як можна рэкамендаваць пагоршыць жыццё насельніцтва? Заработная плата ў нас для бюджэтнікаў запланавана ў расходнай частцы бюджэту. Ці не выплаціць - яе значыць зрабіць штучны прафіцыт бюджэту. Навошта гэта рабіць? ».

Каментуючы адносіны ўладаў з МВФ, аналітыкі адзначаюць: урад спрабуе выкрыць МВФ у палітызаванасці, каб адцягнуць увагу грамадскасці ад галоўнага - адсутнасці рэальных рэформаў у эканоміцы.

Вядома, МВФ як фінансавы інстытут у першую чаргу цікавяць эканамічныя пытанні, кажа былы кіраўнік Нацбанка Станіслаў Багданкевіч. «Яны хочуць пераканацца ў тым, што крэдыт, у выпадку вылучэння, пойдзе не на праяданне і падтрымку палітычнага рэжыму, а на рашэнне канкрэтных праблем выхаду з крызісу», - адзначае эксперт.

Хоць, на думку Багданкевіча, цалкам лагічная і зацікаўленасць фонду ў палітычнай лібералізацыі.

Па-першае, нагадвае ён, члены МВФ, якія валодаюць кантрольным пакетам акцый, - гэта як раз тыя краіны, якія крытыкуюць Беларусь за сытуацыю з правамі чалавека і палітычнымі свабодамі.

Па-другое, палітычная лібералізацыя важная не толькі для МВФ, але і для любога сур'ёзнага інвестара, падкрэслівае экс-кіраўнік Нацбанка.

Згодна з Канцэпцыі нацыянальнай бяспекі Беларусі, сукупны знешні доўг не павінен перавышаць 55% ВУП. Як бачым, краіна ўжо перасягнула гэтую мяжу.

Па словах прафесара Багданкевіча, знешні доўг некаторых краін, у тым ліку эканамічна развітых, напрыклад Японіі, нават перавышае ВУП. Але калі эканоміка канкурэнтаздольная і высокарэнтабельных, значны памер знешняга доўгу можа быць не крытычным.

Памер знешняга доўгу варта ўвязваць з цэлым шэрагам эканамічных фактараў, адзначаюць аналітыкі. Пры адсутнасці эфектыўнай праграмы структурных рэформаў павелічэнне беларускага знешняга доўгу сапраўды выглядае пагрозлівым. У гэтай сітуацыі вельмі недарэчы ўскладненне адносін Беларусі як з ЕС, так і з МВФ, які з 1 красавіка паніжае статус свайго прадстаўніцтва ў Мінску.

Паводле прагнозаў аналітыкаў, з часам Беларусі зноў прыйдзецца звяртацца за дапамогай да МВФ, які выдае самыя танныя і выгадныя крэдыты.

**Ірына Леўшына.**

МІЖНАРОДНЫЯ АДНОСІНЫ

# СТАНЕТ ЛИ ПУТИН РВАТЬ ЖИЛЫ ЗА ЛУКАШЕНКО?

ЕВРОПАРЛАМЕНТ ОТЛОЖИЛ ГОЛОСОВАНИЕ ПО РЕЗОЛЮЦИИ О СИТУАЦИИ В БЕЛАРУСИ, КОТОРОЕ ДОЛЖНО БЫЛО СОСТОЯТЬСЯ НА ПЛЕНАРНОЙ СЕССИИ В СТРАСБУРГЕ 15 МАРТА. ТЕМ ВРЕМЕНЕМ АНАЛИТИКИ ПРОДОЛЖАЮТ ДИСКУТИРОВАТЬ НА ТЕМУ САНКЦИЙ ПРОТИВ МИНСКА В КОНТЕКСТЕ ЕГО ОТНОШЕНИЙ С КРЕМЛЕМ.

## Дамоклов меч Брюсселя

«Голосование по Беларуси было отложено до следующего заседания в Брюсселе, чтобы дать белорусским властям больше времени для реагирования», - сообщила пресс-служба Европарламента БелаПАН.

По информации Радио «Свабода», решение связано с отказом Александра Лукашенко помиловать Дмитрия Коновалова и Владислава Ковалева, приговоренных к смертной казни по делу о взрыве в минском метро. Напомним: Беларусь - единственное в Европе государство, которое приводит в исполнение смертные приговоры.

Впрочем, появились и другие версии: о неких сигналах из Минска.

Европарламент должен был призвать Совет ЕС принять решение о целевых экономических санкциях в отношении Беларуси.

31 января 2011 года на заседании в Брюсселе Совет ЕС утвердил список представителей белорусского государства, чей въезд в Евросоюз запрещен и чьи активы на его территории подлежат заморозке. По мнению членов совета, эти лица способствовали нарушению прав человека в Беларуси. Список неоднократно расширялся, и сейчас в нем более 200 фамилий.

В последний раз документ был обновлен 27 февраля 2012 года. Тогда представители ряда стран планировали внести в него имя Юрия Чижа, но за белорусского бизнесмена заступилась Словения, которая, по сообщениям СМИ, имеет в Беларуси деловые интересы.

Тем не менее, белорусские власти 28 февраля рекомендовали главе представительства Евросоюза Майре Море и послу Польши Лешеку Шерепке «выехать в свои столицы для консультаций, чтобы довести своему руководству твердую позицию белорусской стороны о неприемлемости давления и санкций». В Минск для консультаций были отозваны постоянный представитель Беларуси при Евросоюзе Андрей Евдоченко и посол Беларуси в Польше Виктор Гайсенок.

В ответ страны ЕС отозвали своих послов из Минска. На следующей неделе Совет ЕС рассмотрит полный список белорусских предприятий и бизнесменов, к которым могут быть применены санкции.

## Россия вербально защищает союзника

Возможность введения экономических санкций в отношении партнера по Союзному государству обеспокоило Россию. 15 марта российский вице-премьер Дмитрий Рогозин заявил, что в случае ужесточения Евросоюзом политических и экономических санкций в отношении Беларуси Россия окажет ей всестороннюю поддержку.

«Это вопрос не только связан с военно-техническим сотрудничеством. Это в целом межправительственное взаимодействие, - цитирует Рогозина «РИА Новости». - Но могу сказать одно: мы наших белорусских коллег в обиду не дадим».

Москва высказывалась по поводу экономического давления и в прошлом. Перед президентскими выборами Владимир Путин говорил, что санкции ЕС в отношении Беларуси не отразятся на интеграционных процессах в рамках Единого экономического пространства.

Правда, после его победы на выборах правительства Беларуси, Казахстана и России совместно заявили о недопустимости экономических санкций против Минска, которые могут создать препятствия для работы Таможенного союза и ЕЭП. По мнению авторов документа, «это будет иметь негативные последствия, прежде всего для простых граждан».

Отмечая, что Владимир Путин формально остается главой российского правительства, минский обозреватель-международник Роман Яковлевский обращает внимание на противоречивость предвыборной и послевыборной позиций Кремля.

А вот какую позицию занял российский МИД: «Призываем западных коллег воздержаться от попыток оказать давление на наших партнеров по Таможенному союзу. Мы - за равноправный и уважительный диалог, в рамках которого могут быть урегулированы любые возникающие проблемы».

«В данном случае заявление МИД свидетельствует о том, что Москва может более весомо выступать в защиту белорусского режима. А именно - в защиту от возможных экономических санкций», - считает Роман Яковлевский.

Но Андрей Суздальцев, замдекана факультета мировой экономики и мировой политики Высшей школы экономики (Москва) считает, что Россия не станет защищать Беларусь от экономических санкций - по той простой причине, что существенных ограничительных мер со стороны ЕС не предвидится.

«Беларусь торгует с Евросоюзом в основном по двум позициям: это нефтепродукты, выработанные из российской нефти, и собственный продукт, калийные удобрения, - сказал Суздальцев. - Естественно, ЕС никогда не закроет один из источников поступления энергоносителей на свою территорию».

«Кстати, именно эта торговля и обеспечивает Лукашенко валютой», - добавил Суздальцев.

По его мнению, МИД РФ и правительства, представленные в Евразийской экономической комиссии, оказали официальному Минску чисто формальную поддержку в рамках существующих соглашений.

«Хотя, конечно, МИД был обязан это сделать, а вот Евразийская экономическая комиссия это сделала зря», - считает собеседник. На его взгляд, для органа экономической интеграции было бы странным решать политические вопросы, у него иные задачи.

Белорусское руководство, полагает Андрей Суздальцев, повело себя по отношению к партнерам не очень честно: «Минск поднял кампанию в СМИ о том, что скоро грядут экономические санкции - прекрасно понимая, что их не будет. Этим он просто-напросто натравливал Россию на Европу».

**Антон Тарас, «Белорусские новости».**

*Ужо замецены сляды.*
*Мяне забілі. Расстралялі.*
*Ім — што стары, што малады:*
*У сэрцах — ані кроплі жалю…*

*Адзін бязлітасны разлік.*
*Адно жаданне: каб маўчалі…*
*Патух вачэй маўклівы крык.*
*Мяне забілі. Расстралялі.*

*Не напішу радзіне ліст,*
*Дзе ключ да чорнага сакрэту…*
*Пачуйце ж: я не тэрарыст!*
*А тэрарыст жывы й дагэтуль!*
*Так, разумеў: не прыйдзе цуд…*
*Адно зазначу, людажэры:*
*Не вы мой суд, а я ваш суд.*
*Суд праўдай найвышэйшай меры…*

**Рыгор Шэрда, 21:44, 17 сакавіка 2012 .**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 37455, маб. +375292184739

**Падпісана да друку 18.03.2012 у 17.50.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.